**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.36, 17.15, 10.39;
Віцебск — 6.28, 17.03, 10.35;
Магілёў — 6.25, 17.04, 10.39;
Гомель — 6.22, 17.01, 10.39;
Гродна — 6.53, 17.28, 10.35;
Брэст — 6.49, 17.33, 10.44.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 11 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ:**
Кіпрыяна, Феакціста, Андрэя, Ганны, Давыда, Кастуся

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

15 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. чацвер, № 207 (21985)


# РОЗГАЛАС

## ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## БАНКІРЫ ПЕРАКРЫВАЮЦЬ РУБЛЁВЫЯ КАНАЛЫ, ВЫТВОРЦЫ ГЛЫТАЮЦЬ ВАЛІДОЛ

**Кожны крок да большай суверэннасці кожнай з былых рэспублік былога Саюза выклікае сардэчныя прыступы ў вытворцаў і прадпрымальнікаў. У стане нашых, беларускіх, — чарговая нежартоўная паніка: Нацыянальны банк Беларусі раптам перакрыў паступленне плацяжоў з Украіны за раней адгружаную намі ж прадукцыю. Словам, выраблены, зусім рэальны прадукт пайшоў, а грошыкі за яго...**

Аднак што здарылася? Усё проста: Украіна пераходзіць на сваю валюту і, свядома ці не, але выбрала для гэтага самы нязручны момант (нязручны для нас). Яна запазычыла нам 32 мільярды рублёў. Вядома, украінскія банкіры не супраць таго, каб мы атрымалі гэтыя рублі, як, зрэшты, не супраць і нашы вытворцы з прадпрымальнікамі, якія пакуль што застаюцца з вялікім носам. Але вось пытанне: куды потым нашай рэспубліцы падзець гэтую папяровую масу, што за яе купіць? Напрыклад, на той жа Украіне?

Рубель ужо даўно перастаў быць усеагульным плацежным сродкам. Нават у рублёвай зоне (у яе, як вядома ўжо, Украіна адмовілася ўвайсці), якая лічыцца такой больш намінальна. Сёння ў гэтай зоне адначасова існуюць «расійскі» рубель, «казахстанскі» і г. д. Карацей, разлікі паміж рэспублікамі ідуць на строга двухбаковай аснове. Напрыклад, ва ўзаемаразліках Беларусі з Расіяй можна выкарыстоўваць толькі тыя сумы, якія належаць менавіта за нашы двухбаковыя пастаўкі. «Украінскія» рублі ў гэтым выпадку — ні пры чым, іх можна пакінуць сабе на памяць. Нам з Украіны лепш бы тавар атрымаць на адпаведную суму. Або долары. Ці, можа, нават тыя ж грыўны...

Што далей? Мяркуючы па інфармацыі з Нацыянальнага банка, не ўсё страчана. У пятніцу ў Кіеве збіраюцца прадстаўнікі з іншых нацыянальных банкаў, якія займаюцца плацяжамі, менавіта на прадмет таго, «што далей»? Прычым збіраюцца па прапанове Украіны, і гэта дае пэўныя надзеі. Магчыма, усё абыдзецца па-цывілізаванаму. Хоць, з другога боку, нашы банкіры пасылалі ўжо на Украіну праект пагаднення па міжбанкаўскіх разліках — адказу не атрымалі. А ў апошнія дні дзе-нідзе на Украіне (відаць, у адказ на нашы меры) не прымаюць і нашых плацяжоў. Вядома, там жа грыўна на падыходзе, ім тым больш не патрэбны рублі.

Аднак пачакаем да панядзелка, наконт чаго прасілі ў Нацыянальным банку, зэканомім трохі валідолу. На яго сёння павялічаны попыт. Тым больш, што пры такім развіцці падзей і купіць яго не будзе за што.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## У паход за валютай

Адно з буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі — Мінскі трактарны завод — вызначыла патрэбнасць у сваёй прадукцыі на будучы год для ўнутранага і знешняга рынкаў.

Усяго будзе выраблена 95 тысяч сельскагаспадарчых машын «Беларусь», з іх 15 тысяч — для краін далёкага замежжа. Валюту прынясуць і запчасткі, якіх плануецца прадаць на 13 мільёнаў долараў.

А ўсе тавары народнага спажывання, якія выпускае МТЗ, паступяць, згодна з заключаным на 1993 год, дагаворам, толькі ў гандлёвую сетку нашай рэспублікі. Гэта закатачныя машынкі, кухонныя сякеркі, лыжкі і тумбы, дзіцячыя крэслы і г. д. Будзе таксама прададзена 20 тысяч мотаблокаў «МТЗ-06/12» і 2 тысячы малагабарытных трактароў «МТЗ-082».

**Алег ПРАЦЬКО.**

## Нарада можа быць і Усебеларускай

Па ініцыятыве савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, Савета калгасаў рэспублікі, саюзаў прадпрымальнікаў і арандатараў 16 кастрычніка праводзіцца Усебеларуская нарада. На яе абмеркаванне выносіцца адно, але вельмі важнае пытанне — «Аб неадкладных мерах па стабілізацыі сацыяльна-эканамічнага становішча ў рэспубліцы».

У нарадзе прымуць удзел кіраўнікі аб'яднанняў, прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, прадстаўнікі саюзаў прадпрымальнікаў і арандатараў, старшыні прафсаюзных арганізацый. Чакаецца таксама ўдзел першых асоб рэспублікі.

**Прэс-цэнтр савета ФПБ.**

## ВАЛЮТНЫ РЫНАК

## ДОЛАР «ПРЫМЕРЗ»?

Здаецца, з наступленнем замаразкаў долар таксама крыху «прымерз» і зараз трымаецца больш-менш стабільна—на мяжы 320 рублёў.

1. Курсы замежных валют, якія ўстаноўлены Нацыянальным банкам з 14 кастрычніка 1992 года.

| | Камерцыйны курс | Спецыяльны курс | За дол. ЗША |
|---|---|---|---|
| 1 аўстралійскі долар | 108.08 | 36.03 | 1.3879 |
| 1 аўстрыйскі шылінг | 14.56 | 4.85 | 10.3023 |
| 1 фунт стэрлінгаў | 256.05 | 85.35 | 0.5858 |
| 10 бельгійскіх франкаў | 49.12 | 16.37 | 30.5359 |
| 1 нямецкая марка | 101.21 | 33.74 | 1.4820 |
| 1 галандскі гульдэн | 89.93 | 29.98 | 1.6679 |
| 1 дацкая крона | 26.25 | 8.75 | 5.7153 |
| 1 канадскі долар | 120.67 | 40.22 | 1.2430 |
| 1 нарвежская крона | 24.89 | 8.30 | 6.0256 |
| 1 долар ЗША | 150.00 | 50.00 | 1.0000 |
| 1 фінская марка | 31.91 | 10.64 | 4.7003 |
| 1 французскі франк | 29.84 | 9.95 | 5.0264 |
| 1 швейцар. франк | 113.90 | 37.07 | 1.3170 |

2. Звесткі аб куплі ў Рэспубліцы Беларусь наяўнай валюты за кошт уласных сродкаў грамадзян за перыяд з 28 верасня па 3 кастрычніка 1992 года.

| | Астатак на пачатак тыдня | Куплена | | Астатак на канец тыдня |
|---|---|---|---|---|
| | | Агульны аб'ём | Сярэдні курс | |
| Долар ЗША | 1.078.288 | 84.439 | 230 | 1.073.273 |
| Нямецкія маркі | 764.721 | 56.162 | 163 | 763.399 |
| Французскія франкі | 396.690 | 7.150 | 47 | 402.990 |
| Англ. фунты стэрлінгаў | 58.801 | 1.286 | 397 | 59.607 |
| Канадскія долары | 5.524 | 276 | 146 | 5.800 |
| Фінскія маркі | 123.687 | 1.764 | 50 | 124.251 |
| Аўстрыйскія шылінгі | 83.688 | 6.393 | 17 | 90.081 |
| Галандскія гульдэны | 5.514 | 175 | 131 | 5.489 |
| Бельгійскія франкі | 72.625 | 7.787 | 84 | — |

3. Звесткі аб продажы безнаяўнай валюты на міжбанкаўскім рынку з 30 верасня па 6 кастрычніка 1992 года.

Было прададзена 694.120 долараў і 241.260 нямецкіх марак.

Сярэдні курс за тыдзень склаў: долара—271.18, маркі—199.85.

Сярэдні курс на канец тыдня: долара—290, маркі—202 рублі.




## Будуць свае інкасатары

ІВАНАВА. У мясцовым райспажывсаюзе вырашана стварыць сваю інкасацыйную службу. Дзеля гэтага ўжо набыты два спецыяльныя аўтамабілі, набіраецца штат адпаведных супрацоўнікаў. Так што ў хуткім часе грошы раённых арганізацый апынуцца пад надзейнай аховай. І гэтая ахова, несумненна, патрэбна, бо ў Іванаўскім раёне з пачатку года зарэгістравана ў тры разы больш грабяжоў, чым летась. Прычым рабавалі ў асноўным менавіта прадпрыемствы гандлю.

## ЦІ ЁСЦЬ СЯРОД НАС ПРАВЕДНІКІ?

**Пра гэта будзе вядома 28 кастрычніка...**

8—10 кастрычніка ў Палацы культуры трактарнага завода адбыліся выступленні паўднёвакарэйскіх прапаведнікаў евангельска-хрысціянскай царквы Дамі сангехэ, што прыехалі ў Мінск пасля наведвання Масквы і Кіева. Яны гаварылі пра тое, што 28 кастрычніка 1992 года ў 20 гадзін адбудзецца другое прышэсце Ісуса Хрыста, у час якога «ён узнясе на нябёсы сапраўдных вернікаў, а грэшнікаў пакіне на Зямлі, дзе ў хуткім часе пачнецца сямігадовае вялікае бедства і загіне дзве трэці чалавецтва». Паўднёвакарэйскія пастыры доўга і ўпарта спрабавалі растлумачыць, чаму прышэсце адбудзецца менавіта 28 кастрычніка. «Парафіяне» цярпліва слухалі, аднак многія так і не разабраліся ў нагрувашчванні датаў, імёнаў, падзей і цытат з Біблії. Для высвятлення ісціны застаецца чакаць 28 кастрычніка. Дарэчы, калі ніхто не «ўзнясецца» ў гэты дзень на нябёсы, не варта ў гэтым абвінавачваць прапаведнікаў. Магчыма, сярод нас проста няма ніводнага праведніка.

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

# «Орша—менавіта тое месца, дзе могуць усталявацца сапраўдная беларуская памяркоўнасць і разуменне сітуацыі»

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч наведаў адзін са старэйшых і цікавейшых гарадоў рэспублікі — Оршу. Старшыня парламента быў афіцыяльна запрошаны туды яшчэ раней, на святкаванне 925-гадовага юбілею горада, аднак па пэўных прычынах прыехаць не змог... І вось сустрэча нарэшце адбылася. Па словах Шушкевіча, ён дзесьці баяўся гэтай паездкі. Орша была яму вядома як горад, дзе адбываліся проціпраўныя дзеянні, недапушчальныя ў цывілізаванай краіне — напрыклад, леташняе блакіраванне чыгуначнага палатна. Станіслаў Шушкевіч думаў, што «неарэвалюцыйны» рух горада (большасць жыхароў якога, дарэчы, складаюць менавіта рабочыя) сустрэне старшыню парламента шквалам крытыкі, нападак і неразумення. Адна невялікая дэталь без каментарыяў. На мяжы Мінскай і Віцебскай абласцей Станіслава Шушкевіча ў лепшых традыцыях сацрэалізму сустракалі вышэйшыя ваенныя чыны, кіраўнікі горада і вобласці.

### Сустрэча першая: ІНСТРУМЕНТАЛЬНЫ ЗАВОД

Дырэктар завода Аляксандр Лабанаў спачатку пазнаёміў госця з узорамі і асартыментам выпускаемай прадукцыі, значная частка якой ідзе на экспарт у Італію, ФРГ, Канаду, Паўднёвую Карэю, іншыя краіны свету. Тут жа, у вестыбюлі, Станіслаў Шушкевіч наведаў фірменны магазін інструментальнага завода, дзе са словамі: «Я даўно такі на дачу шукаю» набыў электранасос «Малыш» коштам 2.450 рублёў. Праўда, электранасос быў маскоўскай вытворчасці і прыбыў у Оршу ў якасці аплаты за прадукцыю, аднак гэта было лепшай рэкламай інструментальнаму заводу. Цікава, але пры разглядзе абсталявання Шушкевіч праявіў добрае веданне тэхналогіі вытворчасці. Сваё знаходжанне на заводзе ён завяршыў словамі: «Калі б усе рабочыя працавалі так, як на вашым заводзе, усё было б нармальна».

**Каментарый старшыні прафкома Аршанскага інструментальнага завода Мікалая РАЗУМАВА:**

«Аршанскі рэгіён заўсёды быў звязаны з пэўнымі палітычнымі падзеямі, і далейшая сітуацыя ў эшалонах улады ў немалой ступені будзе залежаць ад вывадаў, якія зробіць Шушкевіч пасля наведвання Оршы. Паколькі Орша доўгі час не мела патрэбнай увагі з боку вярхоў, даволі сур'ёзна паўсталі пытанні адносна сацыяльна-эканамічных, экалагічных і іншых праблем. Шушкевіч, на шчасце, не быў наменклатуршчыкам, доўгі час працаваў у сістэме вышэйшай школы. Таму ёсць надзея на нейкае ўзаемаразуменне».

**З адказаў Станіслава Шушкевіча на пытанні: «МЫ МОЖАМ ПАМЕРЦІ АД ХОЛАДУ, СЕДЗЯЧЫ НА ДРОВАХ»**

Што тычыцца перспектыў пастаўкі ў рэспубліку паліва, то вядомыя беларуска-расійскія дамоўленасці выконваюцца дрэнна. І мы не ўпэўнены ў тым, што гэтыя дамоўленасці будуць выконвацца далей. Пераход на сусветныя цэны на паліва— не выйсце са становішча, бо гэта планка, якую пакуль рэспубліка пераскочыць не зможа. Трэба распрацоўваць іншыя крыніцы цяпла, асвойваць традыцыйныя рэсурсы, хоць яны і патрабуюць значных затрат. Улічваючы той факт, што запасаў шэрага вугалю ў нас нямнога, можна паспрабаваць выкарыстоўваць дровы. А то мы ў Беларусі можам памерці ад холаду, седзячы на апошніх. Дарэчы, і да гэтага часу ў нас бензін застаецца значна таннейшым, чым у іншых краінах СНД.

**«ТРЭБА Б БЫЛО БОЛЬШ УЗАЕМАДЗЕЙНІЧАЦЬ З ЕЎРОПАЙ»**

У нас вельмі добрыя перспектывы ў адносінах са Злучанымі Штатамі Амерыкі, хаця з нашага боку ў гэтым ёсць некаторыя недапрацоўкі. І ўсё ж такі нам трэба б было больш узаемадзейнічаць з Еўропай. Вось просты прыклад. З усёй гуманітарнай дапамогі, якая паступіла ў рэспубліку, больш за 55 працэнтаў — з ФРГ, каля 7,8 працэнта — з Італіі, 7 працэнтаў — з Францыі і менш 5 працэнтаў — з ЗША.

### Сустрэча другая: «ЛЕГМАШ»

На адным з галоўных прадпрыемстваў Оршы — заводзе «Легмаш» старшыня беларускага парламента зацікавіўся выраблямай там прадукцыяй. Ён абмеркаваў праблемы забеспячэння ўльтрагукавым абсталяваннем, вырабу бытавых швейных машын, іншых апаратаў, многім з якіх няма аналагаў у свеце. Разам з дырэктарам прадпрыемства Генадзем Барысавым Станіслаў

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# Сустрэчы ў Доме ўрада

Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч прыняў прадстаўнічую дэлегацыю дзелавых колаў Ізраіля і Аўстрыі, якую ўзначальваў вядомы бізнесмен і прамысловец, уладальнік фірмы «Рамі-он» пан Рамі Гурэвіч.

У ходзе праведзенай гутаркі прэм'ер-міністр падкрэсліў, што гэты прыезд у нашу рэспубліку вялікай групы бізнесменаў ён разглядае як канкрэтнае ўвасабленне ў жыццё пагадненняў, дасягнутых у час візітаў у маі і пачатку кастрычніка гэтага года беларускай урадавай дэлегацыі ў Ізраіль і Аўстрыю. В. Кебіч станоўча ацаніў пакет прапаноў па наладжванню і развіццю ўзаемавыгадных двухбаковых адносін у розных галінах эканомікі і сацыяльнай сферы, які быў падрыхтаваны гасцямі, асабліва адзначыўшы пры гэтым, што эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял Беларусі дае магчымасць неадкладна пачаць рэалізацыю намечаных праектаў.

Гэтыя праекты ахопліваюць самае шырокае поле дзейнасці, прычым па тых напрамках, якія з'яўляюцца жыццёва важнымі для нашага народа. Так, з боку ізраільскіх бізнесменаў паступілі прапановы па супрацоўніцтву ў стварэнні рэспубліканскай уласнага марскога гандлёвага флоту, у асваенні перадавых тэхналогій перапрацоўкі нафты пры садзейнічанні ў яе закупках за рубяжом па выгадных цэнах і яе транспарціроўцы, у развіцці сельскай гаспадаркі, банкаўскай справы, турызму, у рэканструкцыі міжнароднага аэрапорта «Мінск-2», у пастаўках збожжа, цукру, алею, каўчуку, а таксама многае іншае.

З аўстрыйскага боку асаблівы акцэнт быў зроблены на супрацоўніцтве ў галіне медыцыны, наладжванні сумеснай вытворчасці сучаснага медыцынскага абсталявання і лекавых прэпаратаў.

У другой палавіне дня госці прадоўжылі дзелавыя перагаворы з кіраўнікамі зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі.

***

У той жа дзень Вячаслаў Кебіч сустрэўся ў Доме ўрада з заснавальнікам і кіраўніком вельмі вядомай у свеце дабрачыннай арганізацыі — фонду Сароса — панам Джорджам Саросам.

Прэм'ер-міністр расказаў госцю аб палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, аб яе эканамічным становішчы. Ён асабліва падкрэсліў, што, нягледзячы на агульнае зніжэнне тэмпаў вытворчасці ў Беларусі, яна тым не менш з'яўляецца найбольш стабільнай як у сацыяльным, так і эканамічным плане сярод дзяржаў, што ўваходзілі раней у СССР. Зніжэнне паказчыкаў В. Кебіч назваў у цэлым заканамерным, калі ўлічыць, што рэспубліка рэзка скараціла спажыванне нафты з-за яе празмернай цаны і адмовілася ад вытворчасці многіх відаў ваеннай прадукцыі (аб'ём якой раней даходзіў да 30 працэнтаў), а таксама непатрэбных тавараў, выпуск якіх да атрымання незалежнасці навязваўся цэнтрам. «Мы не стаім перад светам з працягнутай рукой, — сказаў прэм'ер, — а калі ў чым і маем патрэбу, дык у першую чаргу ў асваенні перадавых тэхналогій, у вытворчасці і атрыманні важнейшых відаў лякарстваў».

Пан Сарос расказаў аб дзейнасці свайго фонду, падзяліўся станоўчым вопытам супрацоўніцтва з Украінай. Асаблівая цікавасць з яго боку была праяўлена да работы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, а таксама да палітыкі, праводзімай беларускім урадам у сферы фінансава - бюджэтнай дзейнасці.

Джордж Сарос вызначыў шэраг напрамкаў, па якіх яго фонд гатоў супрацоўнічаць.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь— БЕЛІНФАРМ.**




# «Тут можна паспяхова працаваць, і мы ўжо знайшлі аднадумцаў»

**13 кастрычніка ў Мінску адбылася прэс-канферэнцыя з нагоды адкрыцця ў Беларусі Фонду Сараса. У ёй прынялі ўдзел прэзідэнт фонду Джордж Сарас, выканаўчы дырэктар Антані Рыхтэр, прадстаўнік «Культурнай ініцыятывы» — арганізацыі, якая з'яўляецца філіялам фонду ў Маскве, а таксама паўнамоцны прадстаўнік фонду Элізабет Смедлі.**

Імя Джорджа Сараса, фінансіста і мультымільянера, аднаго з лідэраў амерыканскага бізнесу, набыло вядомасць і папулярнасць у Савецкім Саюзе за гады перабудовы. Джордж Сорас прадстаўляе тыя кругі амерыканскай эліты, што з разуменнем сустрэлі ідэі новага палітычнага мыслення і арыентаваны на неадкладную практычную падтрымку тым дзяржавам, якія сталі на шлях дэмакратычных пераўтварэнняў.

Джордж Сорас вядомы ў нас як арганізатар дабрачыннага фонду пад назвай «Фонд Сораса — Савецкі Саюз», які разам з Савецкім фондам культуры і Савецкім фондам міру стварыў савецка - амерыканскі фонд «Культурная ініцыятыва» для аказання фінансавай падтрымкі творчым ініцыятывам савецкіх грамадзян у галіне навукі і культуры. Узнос Дж. Сораса ў бюджэт «Культурнай ініцыятывы» складае штогод у сярэднім 2—3 мільёны долараў.

Акрамя сваёй дзейнасці ў сувязі з фондам Дж. Сорас на працягу апошніх некалькіх гадоў аказваў экспертную дапамогу кіраўніцтву былога Саюза. Гэта перш за ўсё праект «адкрытага сектара» і праграма «500 дзён».

Дж. Сорас з вялікай зацікаўленасцю і разуменнем ставіцца да працэсаў дэмакратызацыі, якія адбываюцца ў краінах Усходняй Еўропы. Сёння ў большасці гэтых краін працуюць дабрачынныя фонды, якія фінансуе Дж. Сорас.

Прэзідэнт фонду Дж. Сорас адказаў на шматлікія пытанні журналістаў на прэс - канферэнцыі. Прадстаўнік фонду ў Беларусі Элізабет Смедлі адзначыла:

— Я прыехала сюды яшчэ месяц назад прадстаўніком Цэнтральнага Еўрапейскага універсітэта ў пошуках магчымасці адкрыць у Мінску філіял фонду. З задавальненнем паведамляю, што мы за гэты час зразумелі, што тут можна працаваць, і ўжо знайшлі арганізацыі, з якімі збіраемся супрацоўнічаць.

**Т. АНТОНАВА.**

**(Больш падрабязны матэрыял з гэтай прэс-канферэнцыі чытайце ў бліжэйшых нумарах).**

**На здымку:** Джордж Сорас (у цэнтры) у час прэс-канферэнцыі.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# РАДЫЁ ФАКТ

На Палессі праводзіцца эксперымент па вырошчванню такой незвычайнай для Беларусі культуры, як соя. У калгасе «Парахонскі» пачынаюць яе ўборку. Ураджай добры — па 20 цэнтнераў з гектара. Прыжываецца на Палессі паціху і проса.

***

**Дэпутацкая група Гомельскага гарсавета праверыла рэалізацыю ў магазінах горада цукру і гарэлкі. Аказалася, што за тры летнія месяцы прададзена без талонаў амаль 30 тон цукру і звыш 11 тысяч бутэлек гарэлкі.**

***

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася прэзентацыя дакументальнага відэафільма «Кадыш», у аснове якога — трагедыя мінскага гета ў гады другой сусветнай вайны. Відавочцы і вязні той трагедыі расказваюць у фільме пра факты, якія афіцыяльная прапаганда доўгія гады рэкамендавала не ўспамінаць.

Спонсар дакументальнага відэафільма — сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства «Канкор».

***

Унікальная дыягнастычная апаратура, якая не мае сусветных аналагаў, распрацавана ў Навукова-даследчым інстытуце марфалогіі чалавека Расійскай Акадэміі медыцынскіх навук. У аснове работы — новая тэорыя паталогіі. Акрамя агульнай ацэнкі здароўя пацыента тэст-сістэмы дазваляюць праводзіць раннюю дыягностыку захворванняў, якія працякаюць без сімптомаў, у тым ліку і злаякасных новаўтварэнняў.

## Намі цікавяцца ў Люксембургу

— Быць першым паслом Люксембурга ў суверэннай Беларусі — гэта вялікі гонар для мяне, — сказаў, уручаючы 13 кастрычніка вярыцельныя граматы першаму намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Вячаславу Кузняцову, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікага Герцагства Люксембург у Рэспубліцы Беларусь Жан М. Хостэр. — У апошнія гады цікавасць да Беларусі ў нашай краіне значна ўзрасла, — падкрэсліў ён.

Пажадаўшы паслу паспяховай дзейнасці, Вячаслаў Кузняцоў падкрэсліў, што рэспубліка, якая два гады назад заявіла аб дзяржаўным суверэнітэце, будуе свае адносіны з іншымі краінамі на аснове ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, павагі, прымальнасці прымаемых рашэнняў, абавязковасці выканання дасягнутых дагаворанасцей.

**БЕЛІНФАРМ.**

# З-за кілаграма мяса мы не збяднеем, але добрыя адносіны можам страціць

**РЭПАРТАЖ З БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКАЙ ГРАНІЦЫ**

За Гомелем, кіламетраў за трыццаць, у напрамку Чарнігава на скрыжаванні дзвюх суседніх рэспублік вось ужо трэці год нясуць службу афіцэры і радавыя міліцыі. Па вялікаму рахунку яны працуюць, як у песні спяваецца, за сябе і за таго хлопца. Той хлопец у форме мытніка недзе затрымаўся, але сказалі, рана ці позна ён усё-такі прыедзе сюды. А пакуль што ўсе яго работы па сумяшчальніцтву леглі на плечы супрацоўнікаў «ДАІ СССР», як напісана на яшчэ старых значках.

Пад'язджаю да кантрольна-прапускнога пункта (мытняй з усімі атрыбутамі гэта месца пакуль што цяжка назваць) з нейкім трывожным прадчуваннем. Хоць, здаецца, хвалявацца няма чаго: у машыне ні зброі з боепрыпасамі, ні наркотыкаў, ні тым больш лішніх кілаграмаў беларускага масла з каўбасамі няма. Наперадзе — апушчаны шлагбаўм і старшына міліцыі з пісталетам на баку. Погляд у яго, як у артыста Бранявога, які выканаў некалі ў папулярным серыяле незабыўнага Мюлера, — злёгку прыжмураны, прыдзірліва-строгі. Паглядзеў «гаішнік» на мяне і машыну, нібы рэнтгенам прасвяціў. Але, праўда, нічога не сказаў, толькі злёгку рукой павёў — праязджай, маўляў.

Так мы пазнаёміліся са старшым лейтэнантам міліцыі Міхаілам Карэбам і старшыной міліцыі Аляксандрам Цімошкавым, якія неслі ў той час службу на граніцы. Супрацоўнікі ДАІ (адзін з гарадскога аддзела, другі, старшына, — мясцовы, з раёна) заявілі мне, што работы ў іх, як у камбайнераў: у жніво — хоць адбаўляй. На нагах — па 12 гадзін. Прысесці адпачыць іншы раз дазваляюць сабе, але ўсё роўна адзін заўсёды на пасту, ля дарогі. «Легкавушкі» правяраюць выбарачна, грузавікі — амаль усе. Тармозяць, глядзяць груз, дакументы на яго вываз за межы рэспублікі. Нярэдка такіх у «забыўлівых» шафёраў не аказваецца. Як, напрыклад, нядаўна, калі дзяжурыла змена лейтэнанта міліцыі Анатоля Гладчанкі.

Пад покрывам ночы мінскія «бізнесмены» спрабавалі бескантрольна праскочыць граніцу. У кузаве вялікагрузнага аўтамабіля аказалася скуранога абутку на два з палавінай мільёны рублёў (па дзяржрасцэнках). Тавар ішоў транзітам праз Украіну ў Краснадарскі край, без усялякіх дакументаў. Машына затрымана, складзены пратакол і АБКС вядзе расследаванне. Арганізатарам гэтай акцыі ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь аб абароне спажывецкага рынку «свеціць» штраф у дзесяцікратным размеры.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

# «Ці ведаеце вы Мінесоту?»

## ДА ВЫНІКАЎ КОНКУРСУ-ВІКТАРЫНЫ

У №№ 95—96 «Звязды» за 16 мая г. г. былі надрукаваны заданні віктарыны **«ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ МІНЕСОТУ!»**, арганізаванай Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Таварыствам «Беларусь — ЗША», рэдакцыяй часопіса «Беларусь» сумесна з аддзяленнем таварыства «Фрэндшып Форс» («Сіла ў дружбе») у Мінесоце (ЗША).

Скончыўся апошні тэрмін дасылання адказаў і мы можам падвесці пепярэднія вынікі віктарыны.

Найперш, адказы на зададзеныя пытанні (заўважым, што пытанні і адказы на іх, апроч двух апошніх, падрыхтаваны амерыканскім бокам, а ў якасці крыніцы быў узяты «The Minnesota Aimanas» пад рэдакцыяй Мары Эн Гросман, 1988 г.):




1. Край 10.000 азёраў.
2. Палярная гагара.
3. Індзейцы сіу.
4. Сент-Пол.
5. Фрэнсіс Скот Фіцджэральд.
6. Возера Айтаска.
7. Порт Дулут.
8. Тэатр Тайрана Гатры.
9. «Карджыл». На гэтым пытанні «спатыкнулася» большая частка ўдзельнікаў, якія называлі самыя розныя карпарацыі, не ўлічваючы, што гаворка ідзе аб **прыватнай**, г. зн. неакцыянернай манаполіі.
10. Чарльз Ліндберг.
11. «Вікінгі».
12. «Вада колеру неба». У перакладзе магчымы пэўныя нюансы.
13. Германія, Швецыя, Нарвегія, Данія. І на гэтым складаным пытанні многія ўдзельнікі недабралі балаў.
14. 1988 год. Менавіта ў гэтым годзе было прынята афіцыяльнае пагадненне аб узаемных сувязях паміж грамадскасцю Беларусі і Мінесоты, пра што паведамлялася ў беларускай прэсе. Але гэтыя паведамленні засталіся незаўважанымі вельмі многімі ўдзельнікамі.
15. На гэтае пытанне — аб матывах удзелу ў віктарыне — цікава і па-свойму адказалі ўсе!

Сотні і сотні чалавек з усіх абласцей Беларусі прынялі ўдзел у віктарыне, праявіўшы зайздросную эрудыцыю, цікавасць да штата Мінесота, пачуцці шчырай сімпатыі да амерыканскага народа.

Тым не менш, максімальнай колькасці балаў (30) не ўдалося набраць ніводнаму.

Па 29 балаў у 12 удзельнікаў. Яны ўжо атрымалі паведамленні аб сваім поспеху, і менавіта сярод іх, па выніках субяседвання з журы, будуць вызначаны ўладальнікі трох галоўных прызоў віктарыны — пуцёвак у Мінесоту.

Шанц стаць уладальнікамі іншых прызоў ёсць яшчэ ў вялікай групы ўдзельнікаў, якія паказалі вынікі, блізкія да выдатных. Так, у 21 чалавека па 28 балаў, у 36 — па 27 і ў 37 — па 26.

Мяркуецца таксама ўстанавіць спецыяльныя прызы: **«За волю да перамогі», «За лепшае афармленне», «За арыгінальнасць адказаў», «Лепшаму з перыферыі»** і інш.

Падрабязна пра пераможцаў і вынікі віктарыны чытайце ў № 12 часопіса «Беларусь» за 1992 год.

**ЖУРЫ ВІКТАРЫНЫ.**

# АФІЦЫЯЛЬНАЯ ТАБЛІЦА

ТРЫЦЦАЦЬ ВОСЬМАГА ТЫРАЖУ ВЫЙГРЫШАЎ ПА ВЫЙГРЫШНЫХ УКЛАДАХ, ЯКІ АДБЫЎСЯ 10 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. Ў г. ДЗЯРЖЫНСКУ

**Выйгрышы выпалі на наступныя нумары рахункаў па выйгрышных укладах ва ўсіх установах Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь:**

| Нумары рахункаў | Размер выйгрышу ў працэнтах да сярэдняй сумы астатку ўкладу | Нумары рахункаў | Размер выйгрышу ў працэнтах да сярэдняй сумы астатку ўкладу |
|---|---|---|---|
| А-004 | Дваццаць пяць | А-525 | Дваццаць пяць |
| А-063 | Дваццаць пяць | А-562 | Сто |
| А-111 | Дваццаць пяць | А-637 | Дваццаць пяць |
| А-132 | Дваццаць пяць | А-640 | Дваццаць пяць |
| А-171 | Дваццаць пяць | А-696 | Дваццаць пяць |
| А-202 | Дваццаць пяць | А-753 | Дваццаць пяць |
| А-240 | Дваццаць пяць | А-763 | Дваццаць пяць |
| А-285 | Дваццаць пяць | А-839 | Дзвесце |
| А-336 | Дваццаць пяць | А-842 | Сто |
| А-364 | Дваццаць пяць | А-899 | Дваццаць пяць |
| А-430 | Пяцьдзесят | А-947 | Дваццаць пяць |
| А-460 | Дваццаць пяць | А-992 | Пяцьдзесят |
| А-512 | Дваццаць пяць | | |

**Ва ўстановах Ашчаднага банка, дзе колькасць рахункаў больш адной тысячы, ва ўсіх наступных тысячах выйгралі тыя ж нумары рахункаў, што і першай тысячы, г. зн. за № А-1004, А-2004 і г. д.**

**Старшыня камісіі: САКАЛОЎСКІ Міраслаў Баляслававіч — першы намеснік старшыні выканкома Дзяржынскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.**

**Адказны сакратар: ХАЛІМОН Генадзь Анатольевіч — інспектар Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь.**

# АФІЦЫЯЛЬНАЯ ТАБЛІЦА

ВАСЕМНАЦЦАТАГА ТЫРАЖУ ВЫЙГРЫШАЎ ПА ГРАШОВА-РЭЧАВЫХ ВЫЙГРЫШНЫХ УКЛАДАХ, ЯКІ АДБЫЎСЯ 10 КАСТРЫЧНІКА 1992 ГОДА Ў Г. ДЗЯРЖЫНСКУ

**Выйгрышы выпалі на наступныя нумары рахункаў па грашова-рэчавых выйгрышных укладах ва ўсіх установах Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь:**

| Нумары рахункаў | Размер выйгрышу ў працэнтах да сярэдняй сумы астатку ўкладу | Нумары рахункаў | Размер выйгрышу ў працэнтах да сярэдняй сумы астатку ўкладу |
|---|---|---|---|
| В-036 | Сто | В-520 | Сто |
| В-052 | Дваццаць пяць | В-585 | Дваццаць пяць |
| В-107 | Дваццаць пяць | В-610 | Дваццаць пяць |
| В-140 | Дваццаць пяць | В-651 | Дваццаць пяць |
| В-177 | Дваццаць пяць | В-694 | Дваццаць пяць |
| В-219 | Дваццаць пяць | В-757 | Дваццаць пяць |
| В-273 | Дваццаць пяць | В-776 | Пяцьдзесят |
| В-285 | Пяцьдзесят | В-825 | Дваццаць пяць |
| В-345 | Дваццаць пяць | В-865 | Дваццаць пяць |
| В-373 | Дваццаць пяць | В-904 | Дваццаць пяць |
| В-404 | Дваццаць пяць | В-950 | Дваццаць пяць |
| В-445 | Дваццаць пяць | В-995 | Дзвесце |
| В-480 | Дваццаць пяць | | |

**Ва ўстановах Ашчаднага банка, дзе колькасць рахункаў больш адной тысячы, ва ўсіх наступных тысячах выйгралі тыя ж нумары рахункаў, што і першай тысячы, г. зн. за № В-1036, В-2036 і г. д.**

**Старшыня камісіі: САКАЛОЎСКІ Міраслаў Баляслававіч — першы намеснік старшыні выканкома Дзяржынскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.**

**Адказны сакратар: ХАЛІМОН Генадзь Анатольевіч — інспектар Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь.**

АКАДЭМІЯ ДЗІЎНЫХ НАВУК

# МЕЛОДЫЯ ВЫПАЎШЫХ ГУКАЎ

**Дзённая хандра паступова пераходзіць у хранічнае захворванне. Хто зараз ганарыцца тым, што ўратоўваецца ад яе цаной падараваных іншым усмешак? Наадварот, па даволі пэўных мерках, з якімі мы падыходзім адзін да аднаго, лепш за ўсё зараз схавацца. За бранёй уласнага цела. Ад няўпэўненасці і смутку ў вачах людзей на вуліцах. Так мяркуе большасць.**

**І вечарам у тыповых будынках са стандартнымі размерамі вокнаў, якія не прапускаюць сонечнага святла, разыгрываецца апошні акт прэм'еры драмы. Кожны, напэўна, думае, што ў яго свой асобны сцэнарый, але, прыгледзеўшыся, можна бачыць усюды толькі мізансцэны аднаго спектакля.**

**Хавайся — не хавайся, усё адно, мала месца тваім думкам на адведзенай пляцоўцы. Нават калі гэта твая ўласная сям'я, найдаражэйшая за ўсё.**



Яе УЛАСНЫ ДОМ усё больш і больш здаецца казематам. Ірына добра разумее, што, апрача гэтага будынка, у яе больш нічога няма. Акрамя таго, што схавана за яго сценамі.

Кожным ранкам з першым святлом пяшчотным пацалункам яна абуджае сон сваіх дзетак. Малыя спачатку моршчацца, трошкі папішчаць. Марынка высуне з-пад коўдры нос — ці цёпла ў хаце? У апошнюю хвіліну, калі бачаць, што маці збіраецца ісці на работу, ускочаць. Замільгаюць рэчы — сукенкі, штонікі. І хутка, як тыя медзведзяняты, што не адышлі ад зімы, сын і дачка крочаць за ёю па вясковай вуліцы.

Яна прыйдзе на работу і — што за здзекі? — замест таго, каб нікога не турбаваць сваім існаваннем і не бачыць лішніх людзей, якія нейкім чынам дакранаюцца да яе жыцця, стане націскаць клавішы акардэона і вывучаць з дзецьмі нейкую сучасную мелодыю.

Не так даўно пасля цяжкай аперацыі на сэрцы, скончыўшы музычнае вучылішча, гарадская дзяўчына вырашыла загнаць сябе ў самую глухую вёску. Урачы сказалі, што з такім сэрцам аб дзецях ёй і думаць няма чаго—не вытрымае. А што за сям'я без дзяцей? Навошта ёй шмат сяброў? Каб хутчэй прымірыцца з забаронамі, лепш жыць ціхенька адной, дзе нікому не было б справы да твайго асабістага жыцця.

Хутка яе акардэон азваўся разгубленымі гукамі нешматлікім вясковым вучням. Здавалася, тут народ даўно забыўся, што такое музыка. Адно хлапчаня нават пад парту схавалася, пачуўшы цяжкі рып няўмела расцягнутых мяхоў. Бацюхна Усявышні! Ну як ім растлумачыць, што мелодыя — гэта і крокі, і стук хатніх дзвярэй, і ўздыхі натопленай печы. Што падзеі, якія здараюцца з чалавекам за дзень, падуладныя агульнай мелодыі яго лёсу. Гэтая мелодыя спыняецца на нейкай ноце — і ты не ведаеш, што рабіць у жыцці. Потым яна аказваецца мацнейшай за разважанні і сваім унутраным развіццём падказвае патрэбнае выйсце са становішча. Дапісваецца наступная нотная фраза.

Гаспадыня, у якой Ірына жыла на кватэры, чамусьці ўтаіла, што з арміі павінен вярнуцца сын. Яна хацела шукаць новае жыллё. Але ён перавканаў, што ўвесь час марыў аб дзяўчыне з такімі ж рыжымі валасамі. Усе перашкоды, хваробы і цяжкасці трэба пакінуць за парогам будучага Дома. Акардэон сарамліва маўчаў.

Неяк непрыкметна вырас новы Дом для маладой сям'і. Хутка ў ім загучала нязвыклая для вёскі музыка. Замест струхлелага клуба моладзь стала збірацца тут. Ірына адчула, чаму некаму падабаецца джаз ці блюз. У жыцці, заведзеным у адным імпульсіўным стылі, вельмі патрэбны пераменныя, задумлівыя рытмы. І ты ніколі не ведаеш, колькі будзе доўжыцца той ці іншы гук. На якой вышыні правецца шчасце. Пасля якога эпізода з'явіцца паўза.

Яе маці нават цяпер не разумее, як квёлая, хворая дачка рашылася нарадзіць дзіця. Ледзь яе выхадзілі тады. Немаўля з першых дзён апынулася ў бацькавых руках, нібы ў калысцы.

Пасля бальніцы Ірына ўсё дзівілася, чаму хлапчаня ўвесь час крычыць. Ёй так хацелася спакою, а Саша прымушаў разумець незнаёмы голас сына. Чамусьці так здаралася, што ён пачынаў плакаць менавіта тады, калі яна думала пра нядаўнюю работу ці кідала тужлівы позірк на свой любімы акардэон. Слухаць яе закалыхваючыя спевы ён таксама не жадаў. Яна навучылася маўчаць, і сын зацікаўлена зазіраў ёй у вочы.

Некаторы час дом хаваўся ў тумане маўклівага шчасця. Малы пачынаў шчабятаць.

Першая сварка адбылася, калі Ірына паведаміла мужу, што другое дзіця не павінна нарадзіцца. На кансультацыі ўрач заявіла, што яе жыццё яшчэ патрэбна сям'і, і вызначыла дзень аперацыі. Саша пераконваў: няшчасце з ёю не павінна здарыцца. А тут яшчэ столькі часу наперадзе... Усё будзе добра.

Раненька Іра сабрала патрэбныя рэчы і, каб не спазніцца на першы аўтобус у горад, моўчкі выйшла з хаты. Замест знаёмай дарогі да паліклінікі ногі выбіралі самыя доўгія. Яна прымусіла сябе падняць вочы на злосныя белыя вокны, і замест таго каб пераступіць парог, дзе ўсё ўжо было падрыхтавана да аперацыі, рэзка адхіснулася і пабегла назад. Маці перапужалася, убачыўшы дачку з поўнымі слязьмі вачамі. Тры дні спрабавала супакоіць яе.

Дома сустрэлі каменныя твары. Саша ўвесь час быў побач з хлопчыкам, нібыта бараніў ад яе. Яна растлумачыла маламу, што не трэба яе баяцца, яна не злодзей — маці.

Перад Пасхай пачала рыхтаваць пялёнкі. Муж звычайна вяртаўся з работы рана. Калі стрэлкі дагналі лічбу дванаццаць, яе ахапіла жудасная думка, што яго больш не будзе. Ніколі.

Забіраць яе з раддома прыехала свякроў. Тады ёй сказалі, што Сашу пахавалі ў той жа дзень, калі нарадзілася Марынка.

Ірыне здалося, што яна ўжо гэта ведала. Яшчэ тады, калі адчула першыя рухі дзіцяці. У свядомасці чамусьці ўзнік абрывак кінакадра з акрываўленым іржавым цвіком у сэрцы. Хутка з'явіўся і хутка знік.

Здараецца так, што адзінота ператвараецца ў пяшчотны спакой. З ёю прыемна размаўляць аб мінулым. З ёю лёгка прыйсці да згоды. Увогуле зараз Іра лічыць, што адзінота вызначаецца не знешнімі акалічнасцямі жыцця, наяўнасцю або адсутнасцю неабходных людзей. Адзінота наканавана лёсам, ад яе не ўцячы. Нават самае вялікае шчасце не прытупіць шчымлівага пачуцця адасобленасці свайго існавання. Чаму людзі так імкнуцца вырвацца з гэтага, самага натуральнага стану? Чаму яго заўсёды фарбуюць самымі змрочнымі колерамі?

Марынка ўвечары цягне яе да акардэона. Вецер за сценамі настойліва адганяе нечыя крокі. Здаецца, хтосьці здалёк прыходзіць сюды, каб употай слухаць яе мелодыю. Дачка слабымі пальчыкамі кранае клавішы, і выпадковыя гукі зліваюцца ў светлы і доўгі акорд.

Уся вёска асуджальна ўздыхне, каб заглушыць гэтыя радасныя гукі. Акардэон толькі пераліўіста засмяецца, праклінаючы векавыя догмы. Чаму ўдава павінна амываць сваё гора слязьмі?

— Усе гавораць аб шчасці. Але кожны павінен шукаць яго ў сабе. Больш ні ад каго яно не залежыць, — жанчына падымае стомленыя вочы. — У адзіноты светлы колер, нельга на яе скардзіцца, з ёю трэба ладзіць. І шукаць падтрымку толькі ва ўласным настроі. Каб выжыць сярод нашых людзей, трэба раней разгадаць сваю мелодыю і кіравацца толькі яе гучаннем. Тады не будзе ў жыцці фальшу.

Вучні Ірыны прыходзяць дамоў і слухаюць размовы бацькоў пра бессардэчнасць настаўніцы, якой толькі б спяваць ды спяваць.

...Што за падман вашы парады! Нарэшце дзень закрые вочы. І адыдзе бяда і роспач. Туга адкрые сэрца цуду. Што за прытулак у гэтых снах!

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

РАСЛІНЫ І ЗДАРОЎЕ

# ПАЛЫН ГОРКІ




**На Беларусі расце 12 відаў палыну. Часцей сустракаецца палын горкі. Багатыя зараснікі ўтварае ён паўсюдна ўздоўж дарог, ля платоў, на пустках, неапрацаваных палях, палянах.**

**Шматгадовая травяністая расліна вышынёй да 1 м. Сцёблы кветаносныя, прамыя, слабарабрыстыя, разгалінаваныя ў верхняй частцы, ля асновы драўяністыя. Карэнішча кароткае, галіністае, заканчваецца стрыжнёвым коранем.**

**Лісце чарговае, ніжняе доўгачаранковае, трохвугольна-сэрцападобнае, сярэдняе — сядзячае, на больш кароткіх чаранках, верхняе — ланцэтападобнае, сядзячае. Сцёблы і лісце шэравата-серабрыстага колеру ад мноства кароткіх прыціснутых валаскоў.**

**Цвіце ў ліпені—жніўні. Кветкі дробныя, жаўтаватыя, сабраныя ў шарападобныя карзінкі, якія ўтвараюць мяцельчатае суквецце.**

**Плод — буравагая сямянка даўжынёй да 1 мм. Паспявае ў жніўні—верасні. З адной расліны за лета выспявае да 100.000 зярнят. Устойлівая да засухі, маразоў.**

**Трава палыну горкая, змяшчае горкія гліказіды, эфірны алей, вітаміны С, К, В, арганічныя кіслоты, бялковыя, дубільныя, смалістыя рэчывы, карацін, флавоны, крухмал, мінеральныя солі, фітанцыды. Горкі смак расліне надаюць сесквітэрпены.**



**У ГАСПАДАРЦЫ** з расліны атрымліваюць бледна-жоўты, лімонны, цёмна-зялёны, цёмна-сіні фарбавальнікі. Адварам палыну горкага апрацоўваюць кусты парэчак, агрэсту, яблыні ад шкоднікаў (3 кг травы, або 1 кг сушанай настойваць у 10 л вады 1—2 сутак, гатаваць 15 хвілін, развесці 10 л вады). Парашок і траву не любяць моль, клапы, мухі.

**У ХАРЧАВАННІ** выкарыстоўваюць парашок з травы палыну як прыправу да салатаў, мясных, рыбных страў, падліў. Эфірны алей прымяняецца ў лікёра-гарэлачнай вытворчасці для араматызацыі вермуту, лікёру, гарэлкі. Трэба памятаць, што пры працяглым ужыванні напіткаў з палыном з'яўляюцца ваніты, нервовае расстройства («палыновая эпілепсія»), атанія кішэчніка.

**Парашок з палыну.** Траву ці лісце высушыць на паветры, здрабніць у кавамолцы ці ступе, прасеяць. Захоўваць у добра закрытым посудзе. Выкарыстоўваць для араматызацыі салатаў, другіх страў, падліў, прыпраў, соусаў.

**Салата з палыном.** Адвараныя буракі нацерці на буйной тарцы, дабавіць кавалачкі салёнага агурка, бульбы, сечаны селядзец, нацёрты хрэн, парашок палыну, здробненае крута зваранае яйка. Запраўіць маянэзам ці смятанным соусам. Пасыпаць зелянінай кропу, пятрушкі і зялёнай цыбуляй.

150 г буракоў, 100 г селядца, 100 г агуркоў салёных, 60 г бульбы, 25 г хрэну, 1 яйка, парашок з палыну на кончыку нажа, 200 г маянэзу (або соусу смятаннага), зеляніна кропу, пятрушкі і зялёная цыбуля.

**Мяса смажанае з палыном.** Кавалачкі мяса адбіць і пасмажыць у разагрэтым алеі. За 2 хвіліны да гатоўнасці мяса пасыпаць парашком з палыну, прыправамі.

500 г мяса, 150 г алею, парашок з палыну на кончыку нажа, прыправы, соль па смаку.

**Агародніна, тушаная з палыном.** Нацерці на буйной тарцы буракі і моркву, укласці ў качачніцу з разагрэтым алеем і тушыць да напаўгатоўнасці. Пасля дабавіць нашаткаваную капусту, бульбу, цыбулю, насенне кропу, кмену, лаўровы ліст, парашок з палыну. Тушыць да гатоўнасці на слабым агні.

На 100 г буракоў і морквы, па 80 г капусты і бульбы, 50 г алею, 50 г цыбулі рэпчатай, 2—3 г парашку з палыну, прыправы, соль па смаку.

**У НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЕ** выкарыстоўваюць траву палыну. Яна ўзбуджае апетыт, паляпшае страваванне, аказвае болесуцішальнае, заспакаяльнае, лёгкае снатворнае, жарапаніжальнае, процізапаленчае, жаўцягоннае, мачагоннае, раназагойвальнае, слабіцельнае, проціглістовае дзеянне, рэгулюе крывяны ціск (у малых дозах павышае, у большых—паніжае).

Прымаць прэпараты з палыну трэба пад назіраннем урача, з захаваннем тэрмінаў і правілаў прыёму.

**Настой травы палыну.** 5 г травы настойваць у 200 мл кіпеню 20 хвілін, працадзіць. Піць па 1 сталовай лыжцы 3 разы на дзень за 30 хвілін да яды пры гастрытах, язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі, бяссонніцы, хваробах печані, нырак, малакроўі. Рабіць клізмы пры глістах. Абмываць раны, болькі. Настой захоўваць у халодным месцы 2—3 дні. Лячэнне працягваць 2—3 тыдні. Паўторны курс лячэння — праз 1—2 месяцы.

**Адвар з лісця палыну і шалфею.** Лісце палыну і шалфею змяшаць у роўных колькасцях. 20 г сумесі гатаваць у 400 мл вады 30 хвілін, працадзіць. Прымаць па 1 сталовай лыжцы праз 2—3 гадзіны пры калітах.

**Адвар з палыну і травы чабору.** Траву палыну змяшаць з травой чабору (1:4). 15 г сумесі гатаваць на слабым агні ў 300 мл вады 20 хвілін, настойваць 30 хвілін, пасля працадзіць. Прымаць па 1 сталовай лыжцы 3 разы на дзень перад ядой 2—3 месяцы (пад кантролем урача!)

**Сокам са свежай травы палыну** прамываць гнойныя раны, якія доўга не загойваюцца, болькі, свішчы.

**Парашок травы палыну** па 0,2—0,5 г прымаць 3 разы на дзень перад ядой пры хваробах печані.

**Мазь з палыну.** 10 г згушчанага экстракту палыну змяшаць са 100 г алею ці здору. Змазваць раны, болькі, абмарожанні, апёкі, свішчы.

**Алей з палыну.** 5 г сямянак палыну размалоць, змяшаць з 20 г праванскага алею, настойваць 8 гадзін. Ужываць па 1—2 кроплі на цукры, хлебе пры болю, сутаргах.

Трава палыну горкага ўваходзіць у састаў апетытных, жаўцягонных збораў.

**Супрацьпаказанні:** цяжарнасць, павышаная адчувальнасць да расліны.

**НАРЫХТОЎВАЮЦЬ** лісце, траву. Прыкаранёвае лісце зрываюць без чаранкоў да цвіцення, у стадыі бутанізацыі. Верхавіны кветаносных сцёблаў нарыхтоўваюць у пачатку цвіцення. Зразаюць іх даўжынёй да 25 см нажніцамі, нажамі, сярпом.

Пры больш познім зборы ў кветак знікае жоўты колер, яны робяцца бурымі, лісце пакрываецца бурымі плямамі. Такая трава для ўжывання непрыдатная.

Сушаць траву ў засені на скразняку, пад павеццю, на гарышчах, у сушылках, духоўках пры тэмпературы 30—40°С. Высушаныя сцяблы і лісце серабрыста-шэрага колеру, характэрнага водарнага паху, вельмі горкія на смак, ламаюцца з хрустам.

Тэрмін захоўвання высушанай травы 2 гады.

**Ніна АЛЯКСЕЙЧЫК,**
**Валер САНЬКО.**

## РАДЫЁ

### 16 кастрычніка

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 10.00, 13.00, 15.00, 20.15, 23.00, 23.55.

7.00 — «Радыёфакт». 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — літаратурная перадача. 10.15 — А. Якім. «Настаўнік Тактак і яго рознакаляровая школа». Радыёпастаноўка. 12.00 — «Апоўдні». 13.10 — музычны канал. 16.05 — «Спортклас». Для школьнікаў. 17.00 — канцэрт. 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 20.05 — вячэрняя казка. 20.15 — «Постфактумрадыё». 21.00 — «З калекцыі філафаніста». 22.00 — музычная праграма. 23.10 — «Машэрава, 21». Прафсаюзны веснік.

## НАДВОР'Е

### 15 кастрычніка

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўночнаму захаду невялікія ападкі. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 4—6, Гомелі — 5—7, Мінску — 6—8, Гродна — 8—10, Брэсце — 9—11 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаюцца ў асноўным дажджы, туманы. Тэмпература паветра ўначы ад 1 градуса марозу да 4 — цяпла, 16 кастрычніка па поўначы 2—7 градусаў цяпла, удзень — 4—9, па поўдню да 14 градусаў вышэй нуля.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**



## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ
## СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Афіцыяльныя паведамленні.**

**«Сейф, у якім захоўваецца сакрэт».** Аб тым, як працуе беларускі Знешэканомбанк.

**«Наша зброя — інтэлект і ненасілле».** Што ўяўляе сабой ТРП — Транснацыянальная радыкальная партыя?

**«Як выжыць настаўніку?»** Разважанні Т. Чобатавай, старшыні Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў асветы і навукі.

**«Мовы-браты».** Тры пісьмы ў рэдакцыю па праблемах рускай мовы ў Беларусі.

**«Паляванне ў сезон правадыроў».** Расказвае саратнік Хрушчова і Брэжнева...

Крыміналагічнае даследаванне. **«Браць ці не браць».**

Праблемы культуры. **«Калі ласка, не перапісвайце музыку».**

Штрыхі да партрэта. **«У мінулым — прыхільнік Ельцына і дэмакрат».**

Рэклама, аб'явы.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 15 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

**8.45.** Экран беларускага кіно. «Годны да нестраявой».
**10.05.** У. Граўцоў. «Востраў надзеі і кахання». Тэлеспектакль.
**16.25.** Праграма перадач.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Гісторыя Беларусі. 5-ы клас.
**16.55.** «Маленькі сведка». Мастацкі фільм (Індыя). 2-я серыя.
**18.00.** «Канва жыцця». Дак. фільм.
**18.55.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Як пачаць уласную справу. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
**19.40.** Якія мы гаспадары? Навагрудскія замалёўкі.
**20.10.** «Полацкая пячатка». Кінанарыс.
**20.20.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** Сустрэча ў Вярхоўным Савеце РБ С. С. Шушкевіча і В. Ф. Кебіча з беларускімі пісьменнікамі.
**22.15.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе...
**00.15.** НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**9.05.** Мультфільмы «Алёнка і салдат», «Тайна залатых туфлікаў», «Мук-скараход».
**9.55.** Канцэрт ансамбля рускіх народных інструментаў імя М. Будашкіна.
**10.20.** «Без наследніка». Дак. фільм.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Дзеці «сонца». 2-я серыя.
**12.45.** «Замкнёнае кола». Мастацкі фільм.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.05.** Дак. фільм «Ханатлас».
**16.15.** «Алеся і кампанія». Перадача для дзяцей.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.10.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.55.** «Партрэт на фоне». Я. Гайдар і яго каманда.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Лато «Мільён».
**21.10.** Кінапанарама.
**22.25.** Чорная скрыня.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Відэадром.

**Канал «Расія»**

**10.10.** «Лепш за горы могуць быць толькі горы...»
**10.55.** «Санта-Барбара».
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**15.00.** Бізнес: новыя імёны.
**15.15.** Свята «Мурзилки». Частка 1-я.
**15.45.** Там-там навіны.
**16.00.** Панарама прыватызацыі.
**16.45.** Давайце разбяромся.
**17.00.** Так і жывём. «Закрыты горад».
**17.30.** Парламенцкі веснік.
**17.45.** Майстры. Э. Урусава.
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** «Санта-Барбара».
**20.10.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**20.40.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**20.50.** «Апагоны». Мультфільм для дарослых.
**21.00.** Айчына мая. «Засталіся рускімі».
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**23.00.** Сёння ў ВС Расіі.
**23.15.** «Музычны экзамен». Перадача 1-я.

### 16 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Тайны старажытных пячор». Кінанарыс.
**9.00.** Гісторыя Беларусі. 5-ы клас.
**9.20.** «Цешча». Мастацкі фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Ромка, Фомка і Артос». «Пікі-жаўтароцік». Мультфільмы.
**17.20.** Для школьнікаў. Ці любіце вы тэатр?
**18.00.** «Патаемны свет габелена», «З жыцця мастака С. Эрзя». Дак. фільмы.
**18.40.** Сістэма «Ньюс».
**19.00.** Абласныя навіны (Магілёў).
**19.10.** «Абараніць ад чаго, дапамагчы каму?» Прамая лінія.
**20.05.** М. Чуркін. Сімфаньета «Беларускія карцінкі».
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Тэлебіржа.
**21.35.** «Цешча». Мастацкі фільм.
**22.40.** НІКа.
**22.55.** «Рок-айленд». Кася Камоцкая і гурт «Новае неба».

**Канал «Астанкіна»**

**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.05.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**9.55.** Спявае В. Гатоўцава.
**10.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Вясёлыя халасцякі». Мастацкі фільм (Кітай).
**12.45.** «Я буду чакаць». Мастацкі фільм.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Брыдж.
**14.50.** Бізнес-клас.
**15.10.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.00.** Цэнтр.
**16.40.** «Паэтычны альбом». Д. Веневіцінаў.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Кожны пра сваё.
**17.35.** Мультфільм «Пудзіла».
**17.50.** Чалавек і закон.
**18.20.** Шлях да згоды.
**18.50.** Поле цудаў.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Мастацкі фільм «Іпадром».
**22.10.** ВІД прадстаўляе: Палітбюро.
**22.45.** Музагляд. У перапынку (23.00) — Навіны.
**23.45.** М-Ці-Бі.

**Канал «Расія»**

**9.05.** Белая варона.
**9.50.** Кабарэ «Бязглуздзіца».
**10.50.** Фільм В. Лебедзева «Сустрэча».
**11.45.** «Санта-Барбара».
**12.35.** Т. Ін. Ка.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**15.00.** Тэлебіржа.
**15.30.** Свята «Мурзилки». Частка 2-я.
**16.00.** Там-там навіны.
**16.15.** Іжыца. «Лініі лёсу».
**16.50.** М-трэст.
**17.05.** «Сям'я Смірновых. Як жыць далей?» Тэлефільм (Аўстрыя).
**17.50.** Уолт Дысней па пятніцах. «Біг фут». 1-я серыя.
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** «Пятая пячатка». Мастацкі фільм (Венгрыя).
**21.00.** «Не лыкам шыты».
**21.25.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**23.00.** Вячэрні салон.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін — 32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 207.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12